**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 12 (780) 19 сакавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**Першакласнікі Глыбоцкай СШ№3 пабывалі на сапраўдным беларускім свяце. Для іх урок беларускай мовы прайшоў незвычайна. Разам з майстрам па дрэве Віктарам Дудкевічам вучні знаёміліся з беларускімі традыцыямі, даведваліся пра значэнне сімвалаў у беларускім арнаменце, а таксама шмат пазналі пра звычайную лыжку.**
**Напрыканцы ўрока вучні атрымалі падарункі ў выглядзе стужак з беларускім арнаментам, паштоўкі з выявамі Глыбокага і салодкія напоі.**
*Фота Таццяны Смоткінай.*

## Мінгандлю: у Беларусі неўзабаве цалкам адпусцяць цэны

**У будучыні ў Беларусі будуць кантралявацца цэны толькі на сацыяльна значныя тавары, работы і паслугі па пераліку Саўміна. "Паэтапная лібералізацыя прадугледжваецца, хутка будзе поўны водпуск", – заявіла ў час прамой лініі Белтэлерадыёкампаніі намеснік міністра гандлю Ірына Наркевіч.**

Паводле яе слоў, гэтая тэма шырока абмяркоўвалася са снежня, калі быў уведзены мараторый на рост коштаў, а потым іх дазволілі падняць на пэўны працэнт.

Датычна цэнаў у Беларусі і іншых краінах ЕАЭС намеснік міністра лічыць, што аптымальным варыянтам было б выраўноўванне коштаў. Але пакуль пра гэта казаць рана.

"Тут шмат аб'ектыўных прычын, якія, у прынцыпе, могуць быць і ў вытворчасці, сабекошты гэтага тавару, розныя пошліны. Вельмі шмат фактараў, якія ўплываюць на гэты працэс. Цана, вядома, розная цяпер. І нейкі сегмент тавару можа быць таннейшым у РФ, але асноўная група тавараў, калі мы маніторынг праводзілі, вядома, у Беларусі таннейшая. Асабліва прадукты харчавання", – сказала яна.

***telegraf.***

**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

### МНС інфармуе
**на 16.03.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 156;
Гібель людзей – 33, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 8;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –172 млн. руб.

## Віцебская вобласць

# А навошта рызыкаваць?

■ Станіслаў Раманчук.

**Быццам усе і ведаюць, што выходзіць вясной на тонкі лёд смяртэльна небяспечна, аднак працягваюць гэта рабіць і гінуць.**

Сёлета ў першай дэкадзе месяца надвор’е стала, як у красавіку, таўшчыня ледзяного покрыва зменшылася да 3-5 см і ў выніку за адны выхадныя па Беларусі загінулі адразу 9 гора-рыбакоў. На адным з буйнейшых у краіне возеры Асвейскае, што ў Верхнядзвінскім раёне, плошчай 5,3 тысячы гектараў у суботу 7 сакавіка праваліліся пад лёд чатыры мужчыны. Праўда, дваім з іх удалося самастойна выбрацца з ледзяной пасткі. З дыягназам моцнагам пераахалоджання арганізма іх у той дзень даставілі на лячэнне ў мясцовую райбальніцу. А вось для яшчэ дваіх рыбакоў з Полаччыны гэта рыбалка аказалася апошняй у жыцці. У ледзяной вадзе знайшоў сабе пагібель 64-гадовы пенсіянер з Полацка. Таксама у суседні Наваполацк прыйшла жалобная вестка аб гібелі гараджаніна 1960 года нараджэння. На жаль, на гэтым сумная статыстыка недарэчнай гібелі людзей у вадзе не скончылася. У паўночнай частцы Браслаўскага раёна размешчана паўнаводная рака Друйка са спакойным цячэннем і нізкімі берагамі, адкуль і паступіў сігнал бедства. Мясцовыя жыхары паведамілі ў райаддзел па надзвычайных сітуацыях, што паблізу вёскі Дубкі топіцца чалавек. Аднак у момант прыбыцця па выкліку ратавальнікі ўбачылі толькі пустую палонку ўдалечыні ад берага ракі. Як было пазней устаноўлена, на гэтым месцы ўтапіўся 36-гадовы мясцовы жыхар. Ён таксама вырашыў рызыкнуць, захацеў злавіць рыбкі, хоць і ведаў, што лепш не выходзіць на тонкі лёд у такую пару года.

## Пастаўскі раён

# Дэфіцыт кадравы

■ Кастусь Александровіч

**Ужо ўсім відавочна, што і беларусаў накрывае сёлета сур’ёзны сістэмны крызіс, бо сталі расці даўгі па зарплаце, прастойваць вытворцы і адчувальна вырасла беспрацоўе.**

Не пазбегнуў падобных праблем і буйны Пастаўскі раён, дзе асабліва няпростая сітуацыя ў галіне сельскай гаспадаркі. Летась тут аб’ёмы вытворчасці ўпалі на дзясяткі млрд. рублёў, у сярэднім на кожную з 15 гаспадарак прыпадае ўжо больш 44 мільярдаў розных даўгоў. Прычыны такіх правалаў не толькі ў безгаспадарчасці, але і ў неналежным кантролі за тэхналогіямі і дысцыплінай з-за недахопу спецыялістаў АПК. Па раёне зараз не ўкамплектаваны штаты 45 патрэбных спецыялістаў, у той час як мясцовым гаспадаркам не хапае 15 механізатараў і толькі 3 жывёлаводы для ферм. У сельгаспрадпрыемстве “Вярэнькі-агра” склалася нават патавая сітуацыя, бо яго старшыні В. Шырко цяжка працаваць аднаму без галоўных аграномa, інжынера, ветурача і заатэхніка. Як бы кіраўнік не стараўся, але як з вялізнай гаспадаркай без памочнікаў справіцца? У выніку тут летась атрымалі самую нізкую ўраджайнасць збожжа, шмат страціў грошай ад нізкай таварнасці малака. У суседзяў таксама абстаноўка няпростая, бо працуюць без 4-х галоўных ветурачоў і без 3-х галоўных аграномаў. Нават у лепшай прыгараднай гаспадарцы “Хацілы-агра” не могуць падабраць галоўнага інжынера. Не хочуць спецыялісты працаваць у гэтай сферы нават і ў горадзе. Так райаграсервіс не можа знайсці сабе галоўнага бухгалтара, а Пастаўскі льнозавод не мае галоўнага агранома, хоць вырошчвае шмат сам лёну. Праўда, сёлета на працу ў раён прыедуць па размеркаванні 23 спецыялісты сельскай гаспадаркі, з якіх 17 з вышэйшай адукацыяй, аднак адпрацаваўшы неабходны тэрмін, большасць з іх затым не звязваюць свой далейшы лёс з працай на зямлі.

## Аршанскі раён

# Вось гэта клас!

■ Чэслаў Якубовіч.

**Акрамя наяўнасці прыродных фізічных дадзеных у сучасным спорце могуць перамагаць і дабівацца высокіх вынікаў толькі выключна адданыя выбранай справе людзі.**

Да ліку такіх аднесіцца і 25-гадовая аршанка Аліна Талай, якая днямі стала чэмпіёнкай Еўропы па лёгкай атлетыцы ў закрытых памяшканнях і перакрыла рэкорд Беларусі чвэрцьгадовай даўніны. Праўда, у родным горадзе ёй цяпер выпадае пабываць рэдка, тры-чатыры разы на год з-за выключнай занятасці і насычанага графіку трэніровачнай працы. Дарэчы, лёгкай атлетыкай яшчэ школьніцай яна стала займацца ў дзяцінстве выпадкова, а 4 гады назад стала лепшай на кантыненце на спаборніцтвах сярод моладзі і потым фенаменальна заваявала бронзавы медаль ужо на сусветным першынстве ў бегу на 100 метраў з бар’ерамі. Гэты сезон для Аліны складваецца проста феерычны, яна выйграла 8 з дзесяці розных міжнародных турніраў, паказала лепшы вынік бегу ў свеце. Каб такога дабіцца, патрэбна шмат рэгулярна трэніравацца, трымаць сябе ў форме, вытрымліваць каласальныя нагрузкі на арганізм. Аднак для вельмі прыгожай дзяўчыны гэта праца падабаецца, яна ў вольны час любіць шмат чытаць, ведае і любіць сучасную музыку. Зараз тры тыдні ў месяц яна працуе ў Вене са сваім новым маладым аўстрыйскім трэнерам Філіпам Унфрыдам, а потым вяртаецца ў Мінск, дзе мае асобны пакой у інтэрнаце. Для Аліны застаецца кумірам беларуская алімпійская чэмпіёнка Юлія Несцярэнка. У планах аршанкі добра выступіць на чэмпіянаце свету ў Кітаі, а пазней на Алімпіядзе ў Бразіліі на роўных пазмагацца з непераможнымі пакуль цёмнаскурымі канкурэнткамі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.03.15 | | | | Пятніца 20.03.15 | | | | Субота 21.03.15 | | | | Нядзеля 22.03.15 | | | | Пан. 23.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | 0 | +8 | +2 | 0 | +1 | +8 | +4 | +2 | +3 | +6 | +3 | -3 | -5 | +1 | -3 | -3 | -2 | +3 |
| Ціск | 760 | 760 | 758 | 755 | 754 | 753 | 750 | 748 | 747 | 747 | 745 | 745 | 749 | 753 | 754 | 754 | 754 | 754 | 751 |
| Вільготнасць | 84 | 85 | 46 | 78 | 80 | 84 | 47 | 66 | 77 | 87 | 66 | 84 | 74 | 64 | 35 | 65 | 60 | 63 | 39 |
| Вецер м/сек | 1 Ю-З | 1 Ю | 1 Ю-З | 3 З | 5 З | 4 З | 8 З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 5 Ю-З | 7 З | 5 З | 7 С-В | 6 С-В | 5 С | 3 С-З | 3 З | 4 Ю-З | 7 Ю-З |

# Аб самым надзённым

## У ГОД ВЫБАРАЎ БЕЛАРУСАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА СУТЫКНУЦЦА З РОСТАМ ВЫМУШАНАГА БЕСПРАЦОЎЯ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**У такой сітуацыі многія непрацуючыя пайшлі станавіцца на ўлік у цэнтры занятасці, каб іх у далейшым не далучылі да патэнцыйных “ворагаў народа”. З пачатку года таму паўсюдна стаў расці паказчык беспрацоўя.**

Ад нядаўняй расійска-беларускай сустрэчы на вышэйшым узроўні эксперты і спецыялісты чакалі многага, найперш таго, што Крэмль зноў падставіць плячо “малодшаму брату” ў няпросты час для айчыннай эканомікі. Аднак, як вядома, А. Лукашэнку ў белакаменнай узнагародзілі ордэнам, а вось такі патрэбны нам крэдыт пакуль не выдзеліла Расія. Нагода апошняй сустрэчы ў вярхах была між іншым важкая: 15 гадоў назад быў падпісаны дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы і таму лідары дзяржаў захоўвалі публічна аптымізм, што разам яны пераадолеюць любыя цяжкасці.

На базе гэтага дзіўнага міждзяржаўнага аб’яднання розных па-сутнасці эканамічных сістэм паўстаў, як вядома, затым Мытны саюз, сёлета нібыта стаў працаваць і Еўразійскі эканамічны саюз. Аднак, калі разабрацца, плённым стратэгічным партнёрствам нашы адносіны не адрозніваюцца. Нездарма ж вось ужо два гады, як адзначалася ў Маскве, падае руска-беларускі таварабарот. На шляху свабоднага перамяшчэння тавараў паміж блізкімі саюзнікамі захоўваюцца штучныя бар’еры, перыядычна ўзнікаюць розныя “газавыя, нафтавыя, малочныя, калійныя і розныя іншыя харчовыя войны”. Праўда, дзякуючы курсу на збліжэнне з Крамлём афіцыйнаму Мінску ўдавалася купляць танныя энерганосьбіты і працягліы час “праядаць” савецкую эканамічную спадчыну часоў БССР.

Наша кіраўніцтва ганарылася, што мы засталіся ранейшым “савецкім зборачным цэхам” і не збіраемся праводзіць рынкавыя рэформы. У выніку, пачынаючы з 2011 года Беларусь з зацяжнога эканамічнага крызісу і спаду вытворчасці выйсці не ўдаецца, пра што сведчыць няспынны рост знешняга доўгу, перыядычныя дэвальвацыі беларускага рубля. Зараз таксама ўрад спадзяецца зноў атрымаць знешнія ўліванні, каб пратрымацца да выбараў, разлічыцца з замежнымі крэдыторамі.

З надыходам вясны ў краіне вылезлі замест падснежнікаў ранейшыя балячкі, а ў лютым золатавалютныя рэзервы зменшыліся яшчэ на 73,5 млн. долараў ( з пачатку года іх стала менеш на 408 млн. USD) , што для нашай небагатай краіны даволі адчувальна. У пачатку сакавіка ў беларускую сталіцу прыбыла чарговая місія МВФ і працавала паўмесяца па перспектывах праграмы далейшага супрацоўніцтва, бо і А. Лукашэнка прызнае, што гэты заходнія крэдыты для нас самыя выгадныя. Таксама беларускі лідар не стаў хаваць сваё незадавальненне вынікамі працы айчыннай прамысловасці. Беларускія заводы і фабрыкі, па яго словах, сталі сур’ёзна адставаць і цягнуць усю нашу эканоміку ўніз. Калі такое ў Беларусі было раней магчыма, каб ранейшыя флагманы індустрыі МАЗ, МТЗ і БелАЗ сталі самымі стратнымі ў краіне.

Нават там заробкі ў працаўнікоў істотна скараціліся, а сёлета сітуацыя з выдачай зарплаты стала імкліва пагаршацца па краіне. Калі навагодніх святы былі азмрочанымі ў асноўным для працаўнікоў толькі 20 калгасаў, дзе не атрымалі лістападаўскую зарплату 3 тысячы чалавек, то далей такія беды сталі толькі ўзрастаць. У лютым крыху падвысілі тарыфную стаўку 1-га разраду, але не змаглі своечасова разлічыцца з людзьмі ўжо 277 прадпрыемстваў і арганізацый (49300 чалавек). Яшчэ праз месяц колькасць гаротнікаў па Беларусі яшчэ амаль падвоілася.

У пачатку сакавіка ўжо ва ўсіх абласцях краіны і ў Мінску (19 арганізацый) даўжнікамі па зарплаце стаў 510 суб’ектаў гаспадарання. За працу ў студзені не атрымалі зароблены грошай амаль 88 тысяч працаўнікоў, якім не выплацілі каля 301 млрд. рублёў. Ужо практычна ў кожным раёне краіны ёсць па некалькі праблемных прадпрыемстваў і арганізацый, якія знаходзяцца ў цяжкім фінансавым становішчы. Не лепшае становішча ў многіх айчынных гаспадарак, асабліва ў Віцебскай ( 176 калгасаў і прадпрыемстваў-даўжнікоў па заробках) і Магілёўскай абласцях.

Адначасова ў нас вырашылі зверху разабрацца канчаткова з “дармаедамі”, рыхтаваўся адпаведны дакумент для падпісання кіраўніком дзяржавы, а вось такія размовы аб кампенсацыях выдаткаў на сацсферу лайдакамі пачаліся яшчэ ў 2013 годзе. У такой сітуацыі многія непрацуючыя пайшлі станавіцца на ўлік у цэнтры занятасці, каб іх у далейшым не далучылі да патэнцыйных “ворагаў народа”. З пачатку года таму паўсюдна стаў расці паказчык беспрацоўя. А вось спецыялісты навукова-даследчага інстытута Міністэрства эканомікі Беларусі навогул прагназуюць рост эканамічных цяжкасцей і тое, што сёлета ўзровень беспрацоўя ў нас можа дасягнуць нават 6 % ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва, нягледзячы на тое, што сёлетні год выбарны.

Рэзерваў трываласці айчыннай эканомікі становіцца ўсё меней з-за негатыўнага ўздзеяння на развіццё падзей падзення курсу расійскага, а потым і беларускага рублёў. Экспарт айчынных тавараў у РФ працягвае падаць і можа скласці сёлета толькі каля 70 % да ўзроўню 2014 года. Пакуль на расійскіх прасторах не справіцца з крызісам, і беларусам нельга думаць пра палягчэнне. Па ўзроўні пенсій рускія ўжо сталі атрымоўваць іх меней долараў на 10, чым мы. Усім нам маральна трэба рыхтавацца, што наперадзе чакаюць няпростыя некалькі гадоў, бо адразу не ўдасца беларускай эканоміцы паспяхова выйсці на іншыя рынкі збыту з арыентацыяй пераважна на расійскія прасторы.

## Дзень за днём

**З сакавіка для насельніцтва падаражэлі газ, электраэнергія, тарыфы ЖКГ. У рэжыме няпоўнай занятасці сталі працаваць у Беларусі ўжо каля 200 тысяч чалавек. Гандлярам на рынках павысілі падаткі, але дазволілі распрадаць запасы тавараў без дакументаў. Беларусам значна ўскладнілі ўмовы ўвозу купленых у Еўропе бытавой тэхнікі, іншых тавараў, за імі людзі паедуць у Расію. Колькасць айчынных ВНУ хочуць скараціць з 54 да 20. Мінулая зіма стала адной з самых цёплых у Беларусі за ўвесь час назіранняў за надвор'ем.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Пры пасрэдніцтве ЕС пасля перамоў у Брусэлі Украіне з Расіяй удалося хутка перадолець рознагалоссі накont паставак расійскага газу ў Данбас.

**Германія.** Камандуючы войскамі ЗША ў Еўропе генерал-лейтэнант Бен Годжэс заявіў, што ў Данбасе знаходзіцца да 12 тысяч рускіх ваенных, Украіне трэба дапамагчы зброяй.

**ЗША.** Памочнік дзяржсакратара па пытаннях Еўропы В. Нуланд пацвердзіла, што сумесна з ЕС могуць быць уведзены новыя санкцыі супраць РФ, калі яна прадоўжыць весці вайну.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка стварыў Канстытуцыйную камісію па змене асноўных законаў, па ўвядзенні мясцовага самакіравання і дэцэнтралізацыі ўлады ў дзяржаве.

**Англія.** Пасля нахабнага забойства Б. Нямцова пад сценамі Крамля, як заявіла газета Times, надзей на аднаўленне нармальных адносін Расіі з Захадам стала яшчэ меней.

**Галандыя.** Родным ахвяр збітага над Данецкам прывезеным з Курска рускім "Букам" малайзійскага авіялайнера Boieng і журналістам паказалі абломкі самалёта.

**Літва.** Урад краіны зацвердзіў законапраект аб вяртанні абавязковай ваеннай службы на 5 гадоў тэрмінам да 9 месяцаў, за такі час падрыхтуюць яшчэ 16-17 тысяч рэзервістаў.

**Турцыя.** Каля апоўначы стрэлам у галаву невядомы злачынца забіў у Стамбуле 47-гадовага лідара апазіцыі Таджыкістана Умаралі Куватава, жонку з дзецьмі шпіталізавалі.

**Германія.** Былы віцэ-прэм'ер РФ Альфрэд Кох заявіў, што ён цяпер непакоіцца за сваё жыццё пасля забойства побач з Крамлём Б. Нямцова і раптоўнай смерці К. Бендукідзе.

**Расія.** Яшчэ больш кепска, чым цяпер, будзе ў РФ, як папярэдзіў былы прэм'ер-міністр М. Касьянаў, праз паўгода, альбо праз год, не хапае грошай на выплату пенсій з-за рэцэсіі.

**Карэя.** Кампанія Samsung прэзентавала ў Барселоне свой навейшы смартфон лінейкі Galaxy 6 з магчымасцямі бесправадной падзарадкі і здымак у HDR-фармаце.

**Польшча.** Да 10 год турмы пагражае 33-гадоваму беларускаму вадзіцелю, у яго фуры ў бетоннай пліце мытнікі знайшлі схаваных 185 тысяч пачак кантрабандных цыгарэт.

**Украіна.** Услед за ўвядзеннем для грамадзян РФ уезду толькі па замежных пашпартах краіна ў аднабаковым парадку дазволіла пераход мяжы толькі праз міжнародныя пункты пропуску.

**Расія.** На мяжы адчаю апынуліся больш 30 тысяч сем'яў, якія ўзялі ў банках валютныя крэдыты на будаўніцтва жылля, людзей могуць выселіць з кватэр за неаплату займаў.

**Гандурас.** Вучоныя-археолагі ў непраходных джунглях адшукалі руіны белага горада-дзяржавы, які належыў невядомай навуцы развітай індзейскай цывілізацыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Год пачаўся для краіны правальна, як заявіў эканаміст Я. Раманчук, знешні гандаль знізіўся на трэць, продажы беларускіх тавараў у Расію зменшыліся на 39,6 %.

**Гродна.** Падчас службы ў нарадзе раніцай з табельнай зброі застрэліўся 19-гадовы салдат-пагранічнік, у студзені ў Смаргоні пакончыў жыццё самагубствам малодшы афіцэр.

**Мінск.** Без новага крэдыта Расіі ў суме 2,5 мільярда долараў, як заявіў эканаміст С. Чалы, Беларусі прыйдзецца неўзабаве траціць і так свае небагатыя золатавалютныя рэзервы.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ сур'ёзна павялічыў пастаўкі гатовых нафтапрадуктаў ва Украіну пасля страты ўкраінцамі ў ходзе вайны ў Данбасе Луганскага НПЗ.

**Мінск.** Па прыкладзе Казахстана А. Лукашэнка, як заявіў экс-дэпутат парламента Сяргей Скрабец, можа перанесці выбары на лета з-за крызісу і яшчэ некалькіх прычын.

**Гродна.** Расійскія ветэрынары зноў не пусцілі ў Татарстан груз з 12 тон мяса мясцовага мясакамбіната з-за яго нібыта "нехарактэрнага паху", у лютым вярнулі 130 тон мяса.

**Мінск.** У НДЭІ Міністэрства эканомікі Беларусі пацвердзілі рост праблем на рынку працы, узровень беспрацоўя ў краіне сёлета можа перавысіць 6 % з-за спаду вытворчасці.

**Гомель.** Эканамічныя цяжкасці прымусілі холдынг "Гомсельмаш" перайсці на скарочаны графік працы 4 дні на тыдзень, у людзей упалі заробкі, праблемы пачаліся яшчэ летась.

**Крупкі.** Супраць галоўнага ўрача раёна пракуратура распачала крымінальную справу па падазрэнні ў нібыта крадзяжах паліва і ГЗМ у суме каля 80 мільёнаў рублёў.

**Мінск.** Пасля перамоў з беларускімі ўладамі памочнік дзяржсакратара ЗША Э. Рубін заявіў, што Вашынгтон хоча вярнуць адносіны з Беларуссю на нармальныя рэйкі.

**Магілёў.** У суд паступіла крымінальная справа ўладальніка брэсцкага казіно "Мяцеліца", ураджэнца Арменіі, які з дапамогай падробных картак банка завалодаў 1 млрд. рублёў.

**Гродна.** Дырэктар адной з фірм падманам забраў у арганізацыях горада амаль 2 млрд. рублёў і прайграў іх у казіно, супраць махляра распачалі 2 крымінальныя справы.

**Барысаў.** Генеральны дырэктар "Барысаўдрэва" У. Мальцаў не пагадзіўся з вынесеным прыгаворам 3 гады турмы і падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд Беларусі.

**Гомель.** ФК "Гомель" выйграў суд па іску трох былых ігракоў, якія хацелі, каб клуб выплаціў ім зарплату за 3 месяцы і адпускныя па выніках мінулага сезона.

**Ваўкавыск.** Непрацуючы былы 22-гадовы дэсантнік на падпітку ў магазіне без прычын прычапіўся да двух студэнтаў і збіў аднаго з іх, хулігана затрымала потым міліцыя.

# Зацверджаны парадак вяртання ў бюджэт нявыкарыстаных сродкаў сямейнага капіталу



■ interfax.by

**Урад Беларусі зацвердзіў Палажэнне аб парадку, сумах і тэрмінах вяртання часткі даходаў, сфармаваных за кошт кіравання сродкамі сямейнага капіталу, і не выкарыстаных грамадзянамі сродкаў сямейнага капіталу ў рэспубліканскі бюджэт.**

Адпаведная пастанова Савета міністраў ад 9 сакавіка 2015 г. N179 апублікавана ў на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Раней паведамлялася, што ў адпаведнасці з палажэннем аб прадастаўленні сямейнага капіталу пры нараджэнні, усынаўленні (удачарэнні) трэцяга або наступных дзяцей дадзеныя сродкі размяшчаюцца на дэпазітных рахунках грамадзян у ААТ «ААБ Беларусбанк». Ён адкрывае і вядзе дэпазітныя рахункі грамадзян, укладвае акумуляваныя сродкі ў фінансавыя інструменты ААТ «Банк развіцця Рэспублікі Беларусь» (ААТ «БРРБ»).

Становішча, зацверджанае пастановай Саўміна N179, загадвае ААТ «БРРБ» па заканчэнні кожнага перыяду кіравання сродкамі сямейнага капіталу штогод, пачынаючы з 2034, на працягу шасці гадоў забяспечваць вяртанне ў рэспубліканскі бюджэт шляхам пералічэння ў безнаяўным парадку ў доларах ЗША грашовых сродкаў, эквівалентных сумам, накіраваным у Спецфонд. Памер пералічаных грашовых сродкаў павінен быць роўны памеру грашовых сродкаў, эквівалентных, з улікам канвертацыі ў даляры ЗША, сумам, занесеным ААТ «БРРБ» у адмысловы фонд і сфармаваны за кошт кіравання сродкамі сямейнага капіталу, атрыманымі адпаведна ў 2015-2020 гадах.

Пералік сродкаў павінен ажыццяўляцца на працягу каляндарнага года штомесяц роўнымі долямі, пачынаючы з месяца, наступнага за месяцам прыняцця рашэння аб размеркаванні прыбытку ААТ «БРРБ».

Калі грамадзяне ва ўстаноўленыя тэрміны не звярталіся з заявамі аб распараджэнні сямейным капіталам альбо не выкарыстоўвалі сродкі на працягу 5 гадоў пасля падачы заявы, мясцовы выканаўчы і распарадчы орган па месцы прызначэння сямейнага капіталу на працягу 5 каляндарных дзён пасля заканчэння тэрмінаў павінен пісьмова паведаміць пра гэта падраздзяленне ААТ «АСБ Беларусбанк» па месцы вядзення дэпазітнага рахунку.

Права на прызначэнне сямейнага капіталу маюць грамадзяне Беларусі, якія пастаянна пражываюць у рэспубліцы: маці (мачаха) у поўнай сям'і, бацькоў у няпоўнай сям'і, усынавіцеляў (удачарыцелю) пры нараджэнні, усынаўленні(удачарэнні) трэцяга або наступных дзяцей у перыяд з 1 студзеня 2015 года ў 31 сне 2019, калі з улікам народжанага, усынаўлення (удачарэння) дзіцяці (дзяцей) у сям'і выхоўваюцца не менш траіх дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў.

Права на распараджэнне сродкамі сямейнага капіталу ўзнікае па заканчэнні 18 гадоў з даты нараджэння дзіцяці.

Палажэнне аб адначасовым прадастаўленні сем'ям безнаяўных грашовых сродкаў пры нараджэнні, усынаўленні (удачарэнні) трэцяга або наступных дзяцей зацверджана ўказам прэзідэнта Беларусі ад 9 снежня 2014 г. N572

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На тэрыторыю вобласці прыехалі жыць і працаваць ужо больш 1,5 тысячы вымушаных уцекачоў, грамадзян Украіны, вярнулася назад і шмат беларусаў з Расіі.

**Полацк.** За неаплату адключылі тэлефоны дырэкцыі будтрэста № 22, заказаў на ўзвядзенне аб'ектаў па ўсёй Беларусі стала няшмат, упалі аб'ёмы будаўніцтва жылля.

**Віцебск.** На кіраўніка мясцовага аддзялення Беларускай чыгункі завялі крымінальную справу за злоўжыванне ўладай і пакупку для сям'і кватэры за кошт арганізацыі.

**В е р х н я д з в і н с к .** Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп К. Гуджэроцці і 300 вернікаў з усёй краіны правялі імшу памяці пакутнікаў у касцёле святой Тройцы вёскі Росіца.

**Віцебск.** Сход прадпрымальнікаў Полацкага рынку вырашыў не плаціць падаткі і не выходзіць на працу, пакуль не з'явіцца дакументы аб продажы тавараў без сертыфікатаў.

**Паставы.** Услед за 13 шматпавярхоўкамі мікрараёна вуліцы Юбілейнай у райцэнтры пачалі падключэнне яшчэ 10 жылых дамоў 5 гарадка да оптыка-валаконных ліній сувязі.

**Віцебск.** Намеснік начальніка Генштаба арміі Беларусі А. Пасека правёў планавыя заняткі з камандваннем органаў тэрытарыяльнай абароны раёнаў вобласці.

**Глыбокае.** Свой 80-гадовы юбілей адзначыў ганаровы грамадзянін раёна, кандыдат навук Аляксандр Сясіцкі, пры ім за 40 гадоў працы расквітнеў былы саўгас імя Ціміразева.

**Орша.** Да 4-х гадоў зняволення пагражае дырэктару мясцовага ПМС за нібыта арганізацыю крадзяжоў будматэрыялаў прадпрыемства на суму звыш 7 млн. рублёў.

**Расоны.** Суд прызначыў прымусовае лячэнне ад алкагалізму былой прадаўшчыцы райпо, яна скрала са свайго магазіна выпіўкі і ежы на 11 млн. рублёў і "загуляла" на тыдзень.

**Віцебск.** Моцныя траўмы атрымала ў выніку падзення пасля выпіўкі з балкона кватэры 15-гадовая гімназістка, яшчэ адна дзяўчына цудам выжыла пры спробе самазабойства.

**Докшыцы.** Супраць жыхароў раёна распачалі крымінальную справу за незаконнае забойства на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка лася і самкі лася з эмбрыёнам.

**Віцебск.** Вечарам двое хлопцаў ва ўзросце 18 і 25 гадоў без вадзіцельскіх правоў загінулі ў ДТЗ, калі іх аўто з расійскімі нумарамі вылецеў з дарогі, ударыўся ў плот і жылы дом.

**Ш а р к а ў ш ч ы н а .** У выніку пошукавай экспедыцыі "Не было невядомых салдат" у раёне ўстанавілі прозвішчы яшчэ 333 землякоў, якія загінулі на вайне, для кнігі "Памяць".

**Віцебск.** На новы сезон гадавы бюджэт ФК "Віцебск" павінен скласці 20-22 мільярды рублёў (1,35 мільёна долараў), у пачатку вясны клуб меў толькі палову неабходнай сумы, шукаў спонсараў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Я ведаю, як пасябраваць Глыбокае з Закапанэ!






Злева на здымку – будынак рэстарана ў Польшчы, справа – рэканструкцыя аднаго з шасці падобных тыпавых дамоў у квартале вуліц Вольнай і Камсамольскай у Глыбокім паводле здымкаў 1930-х гг. Нават пры павярхоўным аналізе бачна – адзін стыль! І гэты стыль – “закапанскі”.

**У Польшчы існуе асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы, падобная ёсць і на Беларусі. Няма сумневу – прадстаўнікі абедзвюх асацыяцый рана-позна спаткаюцца ў Варшаве альбо Мінску. Гэтым разам у Мінск прыехалі Юзаф Фігура з Закапанэ – “Tygodnik Podhalański” і Гжэгаж Пяхота з Варшавы – “Gazeta Wyborcza”.**

***– А вы адкуль?*** – пытаецца Гжэгаж у аўтара гэтых радкоў.

– З Глыбокага! Па-вашаму – Głębokie (Глэмбоке).

***– Ну, і што цікавага ёсць у вашым Глэмбокім?***

Ведаючы сэнтыменты палякаў аб былых “Крэсах Всходніх”[1], я – не прамахнуўся, сказаўшы: “Што ёсць? Вы, не паверыце! Дамы ў “закапанскім” стылі!

***– Адкуль у Глэмбокім дамы ў “закапанскім” стылі?***

– Архітэктар Юліюш Клос пабудаваў, – тлумачу. – Палякі былі больш абачлівымі за ўкраінцаў! Польска-савецкая мяжа ў 1921-м годзе прайшла па Дзвіне, цэнтр павету Дзісна стаўся памежным горадам. Спакуса! Пераплывуць бальшавікі ўночы Дзвіну, захопяць Дзісну, а раніцай – абвесцяць “Дзісненскую народную рэспубліку”! Ну, як цяпер, расійскія тэрарысты захапілі Данецк і Луганск ды абвесцілі “Данецкую і Луганскую народныя рэспублікі”!

Палякі ўжо тады сцямілі наконт небяспекі і перанеслі сталіцу павету ў Глыбокае, падалей ад непрадказальнага суседа! Чыноўнікам жа адміністрацыі ў новай сталіцы павету спатрэбілася жыллё! Таму і пабудавалі цэлы квартал будынкаў у “закапанскім” стылі.

***– Цікава!*** – рэзюмуе Гжэгаж. ***– З намі ж тут – Юзік Фігура з Закапанэ!***

На гэтым можна было б падумаць: цікавасць палякаў – вычарпаная! Не! Калі не цэлую ноч, дык вечар – дакладна, палякі “штудзіравалі” інтэрнэт – што ж гэта за дамы ў “закапанскім” стылі ў Глыбокім”? Ладна, само Закапанэ – натуральна, а тут – праз тысячу кіламетраў – у Глыбокім! Другое – “Закапанэ”!

**Закапанэ – горад у Польшчы. Гарналыжны курорт у Татрах. 580 гатэляў, 10 гарналыжных трасаў.**

**Насельніцтва – 28 000 жыхароў, усяго ў паўтара раза большае за Глыбокае. Закапанэ клічуць “зімовай сталіцай Польшчы”, горад славіцца сваёй архітэктурай. У 1893 годзе мастак, пісьменнік і архітэктар Станіслаў Віткевіч пабудаваў у Закапанэ “Вілу Каліба”, з чаго і пачаўся “закапанскі” стыль. Самым прыгожым будынкам у “закапанскім” стылі лічыцца – “Віла пад піхтамі”, праект таго ж С. Віткевіча.**

**Закапанэ быў кандыдатам на правядзенне Зімовых алімпійскіх гульняў 2006 года.**

### Скажаш, хто твой сябра, скажу, хто ты! Наш сябра – Закапанэ! Вау, гэта вельмі крута!

Падумалася, а навошта Глыбокае сябруе з “жабракамі”? Хай і будзе той пабрацім з Расіі, Францыі ці з суседняй Літвы! Закапанэ!!! Вось з кім трэба сябраваць!

Варта адзначыць, што і да сёння, усё яшчэ, у Закапанэ будуюцца дамы ў “закапанскім” стылі. Амаль увесь горад – у “закапанскім” стылі!

Па вялікім рахунку, у нас, у Глыбокім, на вуліцах Вольнай і Камсамольскай, дзе цяпер знаходзяцца шэсць тыпавых і два нетыпавых будынкаў у “закапанскім” стылі, цягам дзесяцігоддзяў, спакваля, можна было б і да сёння працягваць узводзіць будынкі ў “закапанскім” стылі. Працяг традыцыі!

У прынцыпе, такое – рэальна. Напрыклад, нашы ўлады маглі б прыняць падобнае рашэнне. Будуеш новы дом (катэдж) на Вольнай ці Камсамольскай вуліцах – будуй толькі ў “закапанскім” стылі, робіш рэканструкцыю – рабі ў “закапанскім” стылі. Новая крама, кавярня – “закапанскі” стыль.

Цяпер было б не восем, а мо паўсотні, цэлы квартал у “закапанскім” стылі! Унікальны турыстычны аб’ект, які па наведванні турыстамі не саступіў бы славутаму Мосару з яго дэндрасадам.

Разумею, улады такога рашэння, цяпер, не прымуць. А мо адправіць іх у Закапанэ ў камандыроўку за пераймannem досведу ў развіцці турызму, а потым рашэнне прыйдзе само сабой?

[1] Усходнія тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай.



У Закапанэ і сёння, усё яшчэ, будуюцца дамы ў “закапанскім” стылі.





Параўнайце! Злева праваслаўная Праабражэнская царква ў Свіле (Глыбоцкі р-н) пабудовы 1936 года (згарэла ў 1964 г) і адзін з віленскіх касцёлаў. Пры ўсёй візуальнай розніцы абодвух будынкаў прысутнасць “закапанскага” стылю – вельмі выразная.

# Чаму дзяцей прыносяць бацяны, а не знаходзяць іх у бульбе ці капусце?

**Маладыя бацькі на сакраментальнае пытанне свайго дзіцяці – “Адкуль я з’явіўся?” – адказваюць банальнай фразай, чутай самімі ж у сваім дзяцінстве – “Бацян прынёс!” А слабо сказаць праўду?**

■ Уладзімір Скрабатун

Наконт бульбы – усё зразумела! Яе беларусы хоць і ядуць на пару стагоддзяў раней, чым рускія, але дзеці у бацькоў пачалі з’яўляцца і да Калумбава адкрыцця Амерыкі, адкуль тую бульбу і завезлі. Ды й з капустай – не стыкоўка, яе радзіма – Міжземнамор’е.

А тут яшчэ такі факт: бацяны прылятаюць да нас з выраю – калі? У сакавіку! Як пішуцца гэтыя радкі (15.03), бацяноў ужо сёлета бачылі на Берасцейшчыне і Гарадзеншчыне. Хіба што,



калі гэты нумар “ВГ” пойдзе ў друк – бацяны ўжо будуць усядаць у сваім гняздзе на концаўскай вежы. То бок[1] бульбу і капусту яшчэ й не садзілі, а дзяцей з ***выраю*** яны ўжо прынеслі. Дарэчы, шаноўныя, а Вы ведаеце, што такое вырай, наогул? Вырай – не што іншае як рай. Стараславянскае слова! Дзяцей бацяны прыносяць з раю! Во як! Мо там – якая фабрыка па вытворчасці дзяцей?

Прыляцелі бацяны – прынеслі бацькам дзіця! Ага! Колькі месяцаў маці выношвае дзіця? Ну, спадарства, Вы ж зразумелі логіку! Дзевяць месяцаў! – для тых, хто не ведае. Простая арыфметыка! 25 сакавіка – умоўная дата прылёту бацяноў на Глыбоччыну. Загінаем пальцы, лічым! ... 25 чэрвеня! – умоўна.

Купалле!!!

Наіўна меркаваць, што ў купальскую ноч маладзёны толькі й сядзелі ў абдымку ля купальскага вогнішча ці скакалі праз яго, вадзілі карагод, апускалі вянкі з рамонкаў і валошак у плынную рэчку. Не! Яны шукалі і “папараць кветку”. Цяжка сказаць, ці знаходзілі яе, але больш самі гублялі ў густых папаратніках! Найперш, дзеўкі! То бок дзеўкі гублялі цноту! Нявіннасць!

Праз дзевяць месяцаў нараджаліся дзеці, якія былі зачатыя ў купальскую ноч! Знаходзілі, аказваецца, тое што шукалі, але праз дзевяць месяцаў! Праўда, каб бацян не прынёс, маглі б і не знайсці...

[1] то бок – это значит, то есть (рус.). Такія навацыі ўжо даўно ўкараніліся ў беларускай мове. Напрыклад, у перадачах тэлеканала “БелСАТ”, у публікацыях іншых маладых аўтараў.

# Каб сок даставіў радасць – не парушайце закон

**Наступіла вясна, хутка пачнецца сезон нарыхтоўкі сокаў з дрэў і насельніцтву неабходна ведаць парадак і правілы іх нарыхтоўкі.**

**А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Згодна з пунктам 2 Правілаў нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання, зацверджаных пастановай Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №37/36: «Юрыдычныя асобы і грамадзяне павінны ажыццяўляць нарыхтоўку драўняных сокаў на землях ляснога фонду ў адпаведнасці з Правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання.

Грамадзянам даецца магчымасць свабоднай нарыхтоўкі драўняных сокаў толькі на спецыяльна адведзеных для падсочкі ўчастках ляснога фонду, з захаваннем тэхналогіі падсочкі, а таксама магчымасць набыцця нарыхтаванага соку ў структурных падраздзяленнях юрыдычных асоб, якія вядуць лясную гаспадарку (лягсасы). У астатніх месцах на землях ляснога фонду нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца.

У адпаведнасці з пунктамі 12-13 Правілаў, нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца:

- у прыбярэжных палосах рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб'ектаў, у межах палос адводу чыгуначных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній;
- у населеных пунктах;
- у дэндралагічных парках, батанічных садах;
- у месцах пражывання і росту дзікіх жывёл і дзікарослых раслін, аднесеных да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь;
- у межах акругаў і зон санітарнай аховы курортаў;
- у месцах масавага адпачынку грамадзян, парках, скверах і г.д.;
- у межах гісторыка-культурных запаведнікаў, мемарыяльных паркаў, археалагічных помнікаў.

Пры нарыхтоўцы соку на тэрыторыі, дзе гэта забаронена, альбо без дазвольнага дакумента, калі яго атрыманне абавязкова, або не ў адпаведнасці з ім, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з ч.І арт. 15.26 КоАП Рэспублікі Беларусь - цягне накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь. Разам з выплатай штрафу, вінаватыя абавязаны пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю пашкоджаннем дрэў, па таксах, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 ліпеня 2008 года №348 «Аб таксах для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю». Пры немагчымасці канфіскацыі незаконна нарыхтаванага драўнянага соку ў юрыдычных і фізічных асоб спаганяецца яго вартасць згодна з таксамі, зацверджанымі Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 2001/07/20 года № 1073 «Аб спагнанні кошту незаконна здабытай драўніны і іншай лясной прадукцыі пры немагчымасці іх канфіскацыі ў юрыдычных і фізічных асоб».

Пра месцы, дзе дазволена нарыхтоўка бярозавага соку, Вы можаце даведацца ў лясніцтвах па месцы жыхарства або ў мясцовым лягсасе.

ДЛГУ «Глыбоцкі вопытны лягсас» і «Пастаўскі лягсас» у вясновы перыяд актыўна займаюцца нарыхтоўкай і рэалізацыяй бярозавага соку насельніцтву, цэны на сок вельмі даступныя, а таму міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету рэкамендуе грамадзянам набываць сок наўпрост у нарыхтоўшчыкаў, а не займацца саманарыхтоўкай. Тады Вы надзейна пазбегнеце ўсіх непрыемнасцяў, а набыты ў афіцыйных нарыхтоўшчыкаў сок даставіць Вам радасць.

***

**Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтва па месцы жыхарства, лягсас альбо ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю па тэлефонах: 8-02156- 28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**





# Піце кляновы сок і будзеце здаровыя

**Наступіла вясна, хутка пачнецца сезон нарыхтоўкі драўняных сокаў.**

**А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

У асноўнай сваёй масе насельніцтва нарыхтоўвае бярозавы сок, але з кожным годам усё большай папулярнасцю стаў карыстацца кляновы сок. Нягледзячы на тое, што ў Беларусі ён не нарыхтоўваецца ў прамысловых маштабах, многія жыхары нашай краіны збіраюць яго самастойна. Гэты напой багаты карыснымі хімічнымі элементамі: жалезам, кальцыем, натрыем, фосфарам і іншымі, таксама ў ім змяшчаюцца важныя для арганізма вітаміны; З, У, Е. Яшчэ ў далёкую даўніну кляновы сок згадваўся ў народных «лячэбніках».

Кляновы сок – гэта скарбніца антыаксідантных злучэнняў, якія вельмі карысныя ў барацьбе з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі. У народнай медыцыне кляновы сок выкарыстоўваюць для лячэння нырак і печані. Таксама яго прымаюць пры авітамінозе. Ён мае танізавальныя, жоўцегонныя і агульнаўмацавальныя ўласцівасці.

Сезонам збору кляновага соку лічыцца сакавік і красавік. Ён не адрозніваецца доўгім тэрмінам захоўвання, таму з яго часта робяць кляновы сіроп, тэрмін прыдатнасці якога 1 год. Піце кляновы сок і будзеце здаровыя.

**Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтва па месцы жыхарства, лягсас альбо ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю па тэлефонах: 8-02156- 28670, моб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**



# Абмежаванні на лоўлю рыбы

**З надыходам першага месяца вясны, сакавіка, для рыбаловаў-аматараў уступілі ў дзеянні і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, дакладней, на вылаў асобных відаў рыбы і водных жывёл.**

**А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўлю асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама на выкарыстанне асобных прылад і (або) спосабаў рыбалоўства.

Лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца ў Віцебскай вобласці **з 10 красавіка па 8 чэрвеня**, за выключэннем, аматарскага рыбалоўства, якое ажыццяўляецца адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, або падвойным, або патройным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, з штучных збудаванняў. У гэты перыяд забаронена выкарыстанне грамадзянамі плаўсродкаў для перамяшчэння па вадзе.

Акрамя названых забаронаў Правілы прадугледжваюць увядзенне забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так:

- Віцебская вобласць забарона на лоўлю шчупака звычайнага надыходзіць **з 9 сакавіка да 25 красавіка** ўключна. За незаконны вылаў шчупака або знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях з асобінамі шчупака прадугледжана адміністрацыйная альбо крымінальная адказнасць.
- Лоўля судака забаронена **з 15 красавіка па 30 траўня**.
- Лоўля сома звычайнага забаронена **з 31 траўня па 1 ліпеня** ўключна.

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях у перыяд забароны з асобінамі шчупака, будуць прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, а шкода за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры або 1 млн. 620 тысяч за адну асобіну шчупака, плюс вага кожнай асобіны. У выпадку, калі сума нанесенай шкоды будзе перавышаць 100 базавых велічынь, то ў дачыненні да парушальніка завядуць крымінальную справу па арт. 281 КК РБ.



Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў перыяд наступлення вясновых забаронаў і абмежаванняў дзейнічаюць у поўным аб'ёме і праца за іх выкананнем толькі ўзмацняецца.

Таму, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі звяртаюцца да рыбаловаў-аматараў з просьбай не спакушаць свой лёс і не парушаць Правілы рыбалоўства. Рыбаловам неабходна звяртаць увагу на лядовае пакрыццё вадаёмаў. У сувязі з наступіўшай працяглай адлігай, лёд на многіх вадаёмах становіцца танчэйшым, асабліва, на праточных азёрах, і невыкананне мер бяспекі можа правесці да трагедыі.

Толькі за першыя два тыдні сакавіка на тэрыторыі вобласці патанула 6 грамадзян.

Паважаныя аматары рыбалкі, будзьце, калі ласка, гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і, знаходзячыся на прыродзе, захоўвайце чысціню нашых прыгожых вадаёмаў, лясоў.

**Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 або маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

# Не станавіцеся ахвярамі недобразычліўцаў

**За два месяцы 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 41 злачынства, з якіх 20 злачынстваў складаюць крадзяжы, як асабістай маёмасці грамадзян, так і дзяржаўнай уласнасці. Работнікі праваахоўных органаў надаюць вялікае значэнне папярэджанню і раскрыццю менавіта крадзяжоў. У папярэджанні крадзяжоў вялікую ролю іграе асабістая засцярога.**

■ **А.І. Гігола,** *начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*



Адным з самых распаўсюджаных крадзяжоў маёмасці адзначаюцца кватэрныя крадзяжы, крадзяжы з аўтатранспарту. У асноўным прадметам злачыннага замаху з'яўляюцца грашовыя сродкі, харчовыя тавары.

**Каб не стаць ахвярай, прыслухайцеся да нашых парадаў:**

■ калі выходзіце, зачыніце дзверы на ўсе замкі, а таксама вокны і балкон; гэтыя дзеянні павінны стаць звычкай і для іншых членаў Вашай сям'і;

■ пазбягайце размоў на тэму свайго месцазнаходжання, асабліва ў прысутнасці чужых людзей і дзяцей; нагадвайце дзецям пра тое, што нельга распавядаць незнаёмым людзям пра тое, хто знаходзіцца дома, а таксама пра тое, дзе могуць захоўвацца ключы ад дома або кватэры;

■ абсталёўвайце сваё жыллё рознымі даступнымі тэхнічнымі прыстасаваннямі абароны;

■ калі ў момант вяртання дадому пачуеце, што дома нехта чужы, не спрабуйце яго затрымаць! Выклічце міліцыю, прыцягніце ўвагу навакольных, запомніце прыкметы злачынцы;

■ калі Вы выявілі сваё жыллё ўзламаным, нічога не прыбірайце, не спрабуйце адразу спраўдзіць, што прапала, не чапайце нічога рукамі і не перамяшчайце, бо гэтым Вы можаце «знішчыць» доказы злачынства, а адпаведна і магчымасць раскрыць злачынства «па гарачых слядах»;

■ абсталёўвайце кватэру ахоўнай сігналізацыяй;

■ усталюйце тэлефон у спальным пакоі;

■ самае галоўнае - не пускайце ў дом незнаёмых людзей і не распівайце з імі спіртныя напоі.

**На парозе:**

■ праз вочка пераканайцеся, хто тэлефануе ў дзверы;

■ калі вырашыце адкрыць дзверы, але не ўпэўнены ў чалавеку, які стаіць за дзвярыма, выкарыстоўвайце ланцужок для дзвярэй;

■ калі не давяраеце наведвальніку, не ўпускайце яго ў дом;

■ калі не ўпэўнены ў чалавеку, прасіце яго прыйсці ў другі раз, калі будзеце дома не адны;

■ калі чалавек сцвярджае, што ён работнік міліцыі, святар і да т.п., папрасіце прад'явіць яго дакументы;

■ калі Вы не ўпэўнены, што наведвальнік з'яўляецца тым, за каго сябе выдае – патэлефануйце ў міліцыю.

Не хваліцеся сваім дабрабытам ў прысутнасці малазнаёмых альбо старонніх людзей. Кожны раз, выходзячы з дома, не пакідайце слядоў, якія паказваюць на адсутнасць жыхароў у доме:

■ не пакідайце ў паштовай скрыні карэспандэнцыю;

■ не пакідайце ў дзвярах запіскі аб тым, што вернецеся праз які-небудзь час;

■ не пускайце ў хату малазнаёмых людзей;

■ вучыце свайго дзіцяці ставіцца з асцярожнасцю да чужых людзей, не давяраць ім, не адчыняць дзверы жылля, калі яны знаходзяцца адны;

■ ніколі не ўпускайце ў дом чужога чалавека, пакуль не пераканаецеся ў яго асобе.






# Увага! Аперацыя «Арсенал»

**«Паважаныя грамадзяне! З 23 па 27 сакавіка 2015 года органамі ўнутраных спраў праводзяцца аператыўна-прафілактычныя мерапрыемствы «Арсенал», мэтай якіх з'яўляецца папярэджанне і спыненне злачынстваў і правапарушэнняў у сферы абароту зброі.**

Глыбоцкі РАУС нагадвае, што за незаконны абарот зброі, боепрыпасаў, выбуховых прылад і выбуховых рэчываў устаноўлена крымінальная адказнасць з пазбаўленнем волі на тэрмін да дванаццаці гадоў. Асобы, якія добраахвотна здалі зброю, боепрыпасы і выбуховыя рэчывы, якія захоўваліся незаконна, вызваляюцца ад крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці.

Па тэлефонах «гарачай лініі» аддзела ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама «22702» 5972174 МТС, 3148902 Велком альбо па тэлефоне «102» Вы можаце паведаміць інфармацыю аб зброі, боепрыпасах і выбуховых рэчывах, якія захоўваюцца незаконна, а таксама атрымаць інфармацыю аб парадку добраахвотнай здачы такіх прадметаў».

*Глыбоцкі РАУС*



# УВАГА: дэкада «Дзяржтэхагляд»

**З 16 па 26 сакавіка Дзяржаўтаінспекцыя, Транспартная інспекцыя і УП «Белтэхагляд» Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь праводзяць агульнарэспубліканскую сумесную дэкаду пад назвай «Дзяржтэхагляд».**

■ **Ю.В. Заяц,** *старшы дзяржаўтаінспектар АДАІ*

Асноўная мэта акцыі - узмацненне кантролю за своечасовым праходжаннем дзяржтэхагляду транспартных сродкаў і прыцягненне ўвагі аўтаўладальнікаў да пытанняў падтрымання аўтамабіляў у тэхнічна спраўным стане.

У цяперашні час ужо складзены план сумесных рэйдаў, узгоднены маршруты патрулявання. Групы, у склад якіх увойдуць прадстаўнікі ДАІ, Транспартнай інспекцыі і УП «Белтэхагляд», будуць у першую чаргу звяртаць увагу на аўтамабілі, якія эксплуатуюцца без дазвольнай наклейкі на ветравым шкле. Таксама будуць правярацца транспартныя сродкі, якія маюць відавочныя неадпаведнасці па вонкавым выглядзе. Асаблівая ўвага будзе надавацца стану аўтамабіляў-таксі і маршрутных транспартных сродкаў, звярнуўшы асаблівую ўвагу на стан іх вонкавага выгляду і змест салонаў, а таксама на праходжанне дзяржаўных тэхнічных аглядаў транспартных сродкаў, якія належаць юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам.

Дадзенае мерапрыемства заклікана прыцягнуць увагу аўтаўладальнікаў да пытанняў падтрымання аўтамабіляў у тэхнічна спраўным стане. Мерапрыемства нагадае аўтаўладальнікам, што своечасова пройдзены Дзяржтэхагляд – залог бяспекі ўсіх удзельнікаў дарожнага руху.

Згодна з патрабаваннямі Правілаў дарожнага руху, кіроўца абавязаны ўтрымліваць транспартны сродак у тэхнічна спраўным стане, а таксама правяраць яго тэхнічны стан перад пачаткам руху, своечасова прадстаўляць транспартны сродак на дзяржаўны тэхнічны агляд.

Нагадваем, што дзяржтэхагляд легкавых транспартных сродкаў праводзіцца: з года выпуску, якіх прайшло не больш за 10-ці гадоў, адзін раз у два гады, грузавых транспартных сродкаў кожны год, а легкавыя транспартныя сродкі, з года выпуску якіх прайшло больш за 10-ці гадоў - штогод.

Пасля рэгістрацыі транспартнага сродку іх ўласнік абавязаны прадстаўляць транспартны сродак на дзяржтэхагляд у тэрмін не пазней за 10-ць дзён з моманту рэгістрацыі.

Кіраванне транспартным сродкам, які не зарэгістраваны ва ўстаноўленым парадку або не прайшоў дзяржаўны тэхнічны агляд, - цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры ад адной да трох базавых велічынь. Учыненыя паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такія ж парушэнні, – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад двух да пяці базавых велічынь

Допуск да ўдзелу ў дарожным руху асобай, адказнай за тэхнічны стан або эксплуатацыю транспартных сродкаў, транспартнага сродку, які мае няспраўнасці, пры наяўнасці якіх яго ўдзел у дарожным руху забаронены, або пераабсталяваны без адпаведнага дазволу, ці не зарэгістраванага ва ўстаноўленым парадку, або якое не прайшло дзяржаўнага тэхнічнага агляду, - цягне накладанне штрафу ў памеры ад чатырох да шасці базавых велічынь.

**Паважаны кіроўца! Заклікаем Вас да строгага захавання Правіл дарожнага руху, добразычлівасці і быць узаемнаветлівымі.**



